# Традыцыйная мусульманская адукацыя і выклік XXI стагоддзя

***Праблемы адукацыі ў мусульманскіх краінах маюць ключавы характар для разумення таго становішча, у якім апынуўся сучасны свет. Краіны-зоны традыцыйнага распаўсюджання ісламу - не толькі самыя маладыя (больш за палову насельніцтва мае ўзрост да 20 гадоў), не толькі захоўваюць сур'ёзныя праблемы ў сферы адукацыі (ад 20 да 70% непісьменных), многія з гэтых дзяржаў рыхтуюцца да глабальнага супрацьстаяння з заходняй цывілізацыяй.***

Пагрозлівы характар сітуацыі бачыцца і ў тым, што ў цэлым шэрагу краін Заходняй Еўропы маюцца вялікія дыяспары выхадцаў з краін ісламскага свету. Так, паводле розных даных, у Англіі пражывае каля 2, Германіі – 5, Францыі – 6 мільёнаў мусульман. Сярод грамадзян Расіі іслам вызнаюць каля 20 мільёнаў чалавек. Агульнай рысай мусульман у дыяспарах з'яўляецца тое, што большасць з іх абсалютна не імкнецца да этнакультурнай асіміляцыі, а, наадварот, усяляк захоўвае свае традыцыі і менталітэт. Апошнім часам па ўсёй Еўропе актыўна будуюцца мячэці і медрэсэ. У Расіі традыцыйная мусульманская школа заняла трывалыя пазіцыі ў Башкартастане, Татарстане, рэспубліках Паўночнага Каўказа.

Падзеі ў Нью-Йорку і наступная за гэтым вайсковая аперацыя ЗША і іх саюзнікаў прымусілі многіх у свеце гаварыць пра глабальнае сутыкненне цывілізацый. Пры гэтым, хаця прамое дачыненне Усамы Бен Ладэна і яго "Аль-Каіды" да тэрарыстычных актаў на Манхэтэне канчаткова не даказана, правільнасць логікі амерыканцаў па нанясенні ўдару ў адказ не выклікае сумнення.

11 верасня амерыканцы і еўрапейцы сутыкнуліся з абсалютна чужым для іх стылем паводзін. І справа тут нават не ў тэрарызме – Еўропа і ЗША не раз падпадалі пад дзёрзкія акты тэрарыстаў – справа ў стаўленні да самых фундаментальных каштоўнасцей: жыцця і смерці. Сучасны рускі палітолаг Сяргей Дунаеў заўважыў, што маці загінуўшага мусульманскага воіна кажа гасцям: "Калі ласка ў мой дом з віншаваннямі, са спачуваннямі – прэч!" У Палесціне сем'і тэрарыстаў-камікадзэ карыстаюцца вялікай пашанай, і многія бацькі толькі мараць пра тое, каб іх сын здзейсніў падобнае. Людзі сучаснай цывілізацыі такога зразумець не могуць.

Лідэры заходніх краін і Расіі зараз усюды падкрэсліваюць, што вайна ідзе супраць тэрарызму, а не ісламскага свету. У той жа час канадскія універсітэты забаранілі прымаць на хімічныя і біялагічныя факультэты выхадцаў з арабскіх краін. Еўрапейцы пачалі ўводзіць змены ў іміграцыйнае заканадаўства, што зробіць яго куды больш жорсткім, а Кангрэс ЗША разглядае папраўкі, прыняцце якіх дазволіць спецслужбам у значнай ступені кантраляваць прыватнае жыццё грамадзян (праслухоўванне тэлефонных перагавораў, праверка перапіскі і г. д.)

Сёння можна канстатаваць, што Захад вельмі баіцца новага непрадказальнага ворага, які дзейнічае ў абсалютна іншай сістэме маральных каардынат. Гэты страх можна зразумець, бо пагроза можа зыходзіць і ад чалавека, якога ты сустракаеш кожны дзень, на выгляд дастаткова рэспектабельнага. Чалавек такі – зусім не люмпен, ён адукаваны, нават займаецца ў авіяцыйнай школе. Але самалётам ён вучыцца кіраваць для таго, каб пасля з дапамогай гэтай машыны загубіць тысячы чалавечых жыццяў, у тым ліку і сваё. І робіць ён гэта абсалютна свядома і ўпэўнена, у адпаведнасці са сваімі ідэйнымі перакананнямі.

А вось што кажуць самі радыкальныя мусульмане. Гадоў за дваццаць да разбурэння Сусветнага гандлёвага цэнтра, на пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя, прафесар гісторыі ісламскай культуры з Саудаўскай Аравіі шэйх Мухамед Бен Хусейн Ад Дарыя пісаў: "Я заклікаю ўсіх мусульман да джыхаду, я лічу, што джыхад у сучасных умовах можа быць у наступных формах: па-першае, байкот светапоглядаў, ідэалогій і культур, якія супярэчаць ісламу, з тым, каб нашы краіны пазбавіліся негатыўных ідэй, што ставяць пад сумненне нашу рэлігію, каштоўнасці нашай цывілізацыі; па-другое, мы павінны прапагандаваць нашу рэлігію сваімі дзеяннямі і паводзінамі, нашай формулай жыцця на аснове ісламскай мадэлі, якую так чакае чалавецтва; па-трэцяе, прапагандаваць іслам словам, мудрасцю, усімі сродкамі ўздзеяння і масавай інфармацыяй... Да таго ж трэба рыхтавацца да ўзброенага джыхаду, бо кожнаму разумнаму чалавеку ясна, што нашых ворагаў – яўрэяў, амерыканцаў і камуністаў – задавальняе толькі наша знішчэнне альбо пераход на іх ідэйныя пазіцыі. А ў нас няма іншай мэты, акрамя як весці джыхад у імя Алаха".

У сённяшніх умовах надзвычай важна зразумець, як узнаўляе сябе ідэалогія, што заяўляе аб адкрытай апазіцыйнасці сучаснай сусветнай цывілізацыі. Мы нічога не зразумеем у радыкальным ісламе, ніколі не здолеем выпрацаваць асабістага і гістарычна апраўданага стаўлення да яго, калі не будзем уяўляць, як дзейнічае ў ісламскіх краінах механізм сацыялізацыі і яго стрыжань – традыцыйная адукацыйная сістэма.

Пытанне пра ісламскую адукацыю вельмі актуальнае яшчэ і таму, што, у адрозненне ад старэючых Еўропы, Расіі і ЗША, мусульманскі свет – надзвычай малады (у сярэдзіне 90-х гадоў больш за 55% насельніцтва арабскіх краін не дасягала васемнаццацігадовага ўзросту). Гэтая моладзь, што расце на фоне ісламскага ўздыму, гераічнай і пераможнай міфалогіі, уяўляе сабой сур'ёзны выклік усяму астатняму свету. Яны зусім не цураюцца сучаснасці, любяць грошы і шыкоўныя аўтамабілі, але памятаюць пра Халіфат і пераможныя паходы на Канстанцінопаль, Іерусалім і Вену. Пра гістарычны рэванш яны мараць не менш, чым пра новую мадэль "Ягуара".

Прарок Мухамед шмат і па-рознаму гаварыў наконт ведаў. Арабскае слова "ілм" сустракаецца ў Каране больш за 700 разоў. Імкненне да ведаў з'яўляецца пачэсным абавязкам кожнага верніка.

Пад "ілмам" разумелі засваенне ісламскіх традыцый, містычнае азарэнне, валоданне прыёмамі логікі і энцыклапедычную адукаванасць. Правільнае пазнанне было немагчымым без вывучэння арабскай мовы (мовы Карана і хадысаў) і цеснай сувязі паміж навукай і практыкай. Словы мёртвыя без адпаведных паводзін – гэты тэзіс знакамітага Ібн Хазма можа паўтарыць любы мусульманін.

Усяму, акрамя містычнага азарэння, вучыла традыцыйная ісламская школа, якая да самага апошняга часу захоўвала двухступенную структуру: спярша – пачатковае вучылішча, пасля – медрэсэ. Тыя, хто жадаў прадоўжыць філасофскую або багаслоўскую адукацыю пасля медрэсэ, шукалі сабе настаўніка – муаталіма. Роля выкладчыка ў мусульманскіх краінах – увогуле вельмі вялікая, але асабліва яна ўзрастае ў суфійскіх ордэнах, бо ў рамках суфійскай традыцыі запаветныя веды можна перадаць толькі вусна – ад настаўніка вучню. Калі прачытаць біяграфію любога значнага ісламскага дзеяча, мы заўсёды знойдзем імёны не толькі яго бацькоў, але і настаўнікаў.

Пералік прадметаў у пачатковай мусульманскай школе наступны: арабская мова, лічэнне, гісторыя жыцця Мухамеда, першае чытанне Карана, самыя асноўныя хадысы – паданні пра словы і дзеянні Прарока, якія дайшлі ў вуснай традыцыі. Яшчэ паўтара стагоддзя таму гэтага ў поўнай меры хапала, каб жыць паўсядзённым жыццём, займацца рамяством або гандлем.

Калі ж чалавек меў здольнасці і хацеў працягваць адукацыю, ён паступаў у медрэсэ – школу другой ступені. Першыя медрэсэ ўзніклі ў X стагоддзі ў Харасане і Маверанахары (сучасная Цэнтральная Азія). З другой паловы XI стагоддзя яны сталі вядучым тыпам навучальных устаноў у ісламскім свеце. Медрэсэ існавалі за кошт вакфу – багаўгоднага ахвяравання прыватных асоб. Выкладчыкам і служкам плацілі заработную плату, навучэнцаў забяспечвалі кнігамі, стыпендыямі і жыллём. Спецыяльных праграм у медрэсэ не было. Асноўным (а ў шэрагу выпадкаў адзіным) прадметам заставалася мусульманскае правазнаўства – фікх. Дадаткова часцей за ўсё вывучаліся каранічныя дысцыпліны, арабская мова і літаратура, хадысазнаўства, матэматыка, логіка і медыцына. Медрэсэ падзяляліся па прыналежнасці да правазнаўчых школ – масхабаў (існуе пяць кананічных масхабаў, чатыры самых старых – ханафіцкі, малакіцкі, шафіiцкі і ханбаліцкі, пазней да іх далучыўся джафарыцкі, які пераважае ў сучасным Іране; масхабы вызначаюцца адносінамі да Падання – хадысаў і трактоўкай пытання пра ўзаемасувязь абсалютнай улады Алаха і асабістага выбару асобнага чалавека). Паступова з'явіліся і філасофскія медрэсэ, якія вывучалі некалькі масхабаў, і медрэсэ, што спецыялізаваліся на хадысазнаўстве і медыцыне. У XII стагоддзі медрэсэ аказалі сур'ёзны ўплыў на станаўленне сістэмы каледжаў у Заходняй Еўропе, але пасля мангольскага заваявання Цэнтральнай Азіі спыніліся ў сваім развіцці і прыйшлі ў заняпад. Толькі ў XIX стагоддзі ў Асманскай імперыі сталі паступова абнаўляцца вучэбныя праграмы і дапаможнікі.

Выкладчык медрэсэ – мударыс – звычайна быў спецыялістам па тэарэтычнай і практычнай юрыспрудэнцыі. Цяпер на Арабскім Усходзе мударысамі называюць штатных прафесараў дзяржаўных універсітэтаў. Выпускнікі медрэсэ маглі займаць дзяржаўныя пасады, быць муламі, кадзі (суддзямі), улемамі. У той жа час ісламскі Усход не ведае фармалізацыі адукацыйнай справы. Вырашальным фактарам тут заўсёды было не тое, якую навучальную ўстанову ты закончыў, а грамадскія сувязі і асабісты патэнцыял. У рэшце рэшт, Мухамед нідзе не вучыўся, і Алі заслужыў сваю мудрасць і славу зусім не дыпломам юрыдычнай школы.

Зразумела, сучасная ісламская адукацыя – значна мадэрнізаваная. Так, Сеід Мухамед аль-Атас, заснавальнік і рэктар Міжнароднага інстытута ісламскай думкі і цывілізацыі ў Куала-Лумпуры (Малайзія), які з'яўляецца аўтарам аўтарытэтнай канцэпцыі ісламскай адукацыі, уключае ў сістэму традыцыйнай школы (разам з Каранам, сунай, шарыятам, філасофіяй і дагматыкай ісламу) арабскую і англійскую мовы, інфарматыку, асноўныя гуманітарныя, прыродазнаўчыя і тэхнічныя прадметы.

У той жа час сутнасць ісламскай адукацыі застаецца нязменнай. У адрозненне ад еўрапейскага падыходу, скіраванага на даследчыцкую дзейнасць, самастойны эмпірычны пошук і аналіз, мусульманская педагогіка зыходзіць з таго, што канчатковая ісціна вядомая. Яе адзіная задача – упісаць чалавека ў свет, азораны вышэйшай воляю Алаха. Таму нават не багаслоўе з'яўляецца асновай гэтай адукацыі. Вядучую ролю тут адыгрывае філасофія, а таксама арабская філалогія, пад якой разумеюць навуку пра значэнне слоў, сказаных Пракорам. Можна колькі заўгодна насміхацца над сур'ёзнымі даследаваннямі некаторых ісламскіх вучоных на тэму, дзе пачынаецца і заканчваецца твар, альбо колькі разоў тая ці іншая літара сустракаецца ў Каране, але якой жа непахіснай павінна быць вера ў паданне, каб займацца такімі простымі, як нам здаецца, рэчамі! Калі пагледзець глыбей, за рамкі цывілізацыйных супрацьлегласцей, мы ўбачым, што тут у прынцыпе сутыкаюцца падыходы да рэчаіснасці, бо еўрапейскія вучоныя таксама некалі спрачаліся, колькі анёлаў можа размясціцца на вастрыі іголкі, аднак з цягам часу погляды хрысціянскіх вучоных і багасловаў зведалі істотныя змяненні. Мусульманская думка (асабліва артадаксальная) у значна большай ступені захавала канцэптуальныя погляды і падыходы, характэрныя для часоў нараджэння і першых крокаў гэтай рэлігіі. Крайнімі артадоксамі з'яўляюцца такія радыкальныя плыні (самыя вядомыя прыклады – вахабіты і талібы), прадстаўнікі якіх фактычна спавядаюць сярэдневяковую інтэрпрэтацыю рэлігіі (у хрысціянстве таксама былі і крыжовыя паходы, і інквізіцыя). Яны ігнаруюць увесь вопыт чалавецтва па эвалюцыі маральных каштоўнасцей, а такія паняцці як свабода, талерантнасць, правы чалавека для іх літаральна нічога не значаць.

Сучасная традыцыйная мусульманская школа не падзяляе такога фанатызму. Яе прадстаўнікі не супрацьпастаўляюць сябе свецкай навуцы. Больш таго, ліванец Юсуф Муравія нядаўна выдаў манаграфію "Прыродазнаўчыя навукі ў Каране", дзе знайшоў 61 аят, прысвечаны матэматыцы, 64 – фізіцы, 62 – тэорыі адноснасці, нават 5 – ядзернай фізіцы. Такое даследаванне, зразумела, крыху наіўнае, але вельмі паказальнае. Ісламскія інтэлектуалы не змагаюцца з дасягненнямі найноўшай навукі, наадварот, лічаць іх сваімі, культурна роднаснымі. Яны шчыра вераць у тое, што рэлігія Прарока – светлая будучыня ўсяго чалавецтва.

Лёс сістэмы адукацыі ісламскіх краін можна прасачыць на прыкладзе знакамітай Каірскай медрэсэ Аль-Джамі Аль-Асхар ("Светлазорная саборная мячэць"), якую небеспадстаўна лічаць сапраўднай жамчужынай арабскага свету. Школа тут была заснавана яшчэ ў X стагоддзі, адначасова з самім горадам, які стаў сталіцай ісмаіліцкай дынастыі Фаціміда́ў. Дзякуючы апекаванню Фацімідаў яна вельмі хуткаператварылася ў славуты навуковы цэнтр, дзе вывучалі права, арабскую мову і літаратуру, хадысазнаўства і каранічныя дысцыпліны. Калі Егіпет быў уключаны ў склад Асманскай імперыі (1517 г.), становішча мясцовых кіраўнікоў пагоршылася, адпаведна прыйшла ў заняпад і адукацыя. Свае пазіцыі захаваў бадай што адзін Аль-Асхар, які заставаўся цэнтрам юрыдычнай, багаслоўскай і філалагічнай адукацыі на Блізкім Усходзе. У XVIII стагоддзі роля ўстановы ўзрасла яшчэ больш. Яна паранейшаму была агульнапрызнаным адукацыйным асяродкам, а таксама галоўным прыпынкам на шляху паломнікаў і гандлёвых караванаў. З Аль-Асхарам звязаны жыццё і дзейнасць многіх вядомых людзей – фізіка Ібн аль-Хайсама (XI ст.), урача Абд аль Лаціфа аль-Багдадзі (XIII ст.), паэта Умара бен аль-Фарыда (XIII ст.), гісторыка Ібн Халдуна (XV ст.), пісьменніка і рэфарматара Мухамеда Абдо (XIX ст.).

Пачынаючы з апошняй чвэрці XIX стагоддзя, у медрэсэ пачалася мадэрнізацыя вучэбных праграм, і паступова Аль-Асхар дасягнуў статуса універсітэта. У нашы часы ён з'яўляецца найбуйнейшым навуковым і педагагічным цэнтрам у Егіпце, дзе рыхтуюць спецыялістаў і служкаў культу практычна для ўсіх мусульманскіх краін.

Згодна Закону аб развіцці Аль-Асхара, які быў прыняты ў 1961 г., ва універсітэце налічваецца 9 факультэтаў: асноў рэлігіі, шарыяту, літаратуры, адміністрацыйны, філалагічны, сельскагаспадарчы, медыцынскі, педагагічны і жаночы. Пры ўстанове існуе цэлая сетка школ, найбагацейшы збор арабскіх рукапісаў (больш за 20 тыс. тамоў), працуюць акадэмія ісламскіх даследаванняў і яшчэ некалькі ВНУ. Па многіх актуальных пытаннях меркаванне законазнаўцаў Аль-Асхара лічылася канчатковым. Праўда, у апошнія дзесяцігоддзі аўтарытэт установы ў вачах некаторых дзеячаў ісламу знізіўся. Адбылося гэта з-за супрацоўніцтва кіраўніцтва універсітэта са свецкімі лідэрамі Егіпта – Насерам, Садатам, Мубаракам, якія дастаткова жорстка падаўлялі рух ісламскіх экстрэмістаў.

Станаўленне свецкай школы ў ісламскім свеце пачалося ў XX стагоддзі. У розныя перыяды і ў розных краінах фарміравалася яна пад англа-амерыканскім, французскім або савецкім уплывам. Цяпер школьнікі і студэнты з ісламскіх дзяржаў вучацца не толькі на радзіме, але і ва ўсіх буйнейшых ВНУ Еўропы і Амерыкі. Аднак, у адрозненне ад традыцыйнай мусульманскай адукацыі і асабістых сувязей, дыплом свецкай ВНУ не гарантуе сёння на Усходзе высокага сацыяльнага статуса. Згодна з данымі апытанняў, якія праводзіліся ў 90-я гады XX стагоддзя, 69% студэнтаў Каірскага і Хелуанскага універсітэтаў нават не спадзяваліся знайсці пасля заканчэння работу па спецыяльнасці. Паказальна, што 83% удзельнікаў гэтага апытання заявілі, што лепшы спосаб выпраўлення сітуацыі з беспрацоўем выпускнікоў ВНУ – увядзенне ў краіне нормаў шарыяту. Гэта з'яўляецца яшчэ адным доказам трываласці архаічнай ісламскай ментальнасці і, што павінна асабліва насцярожваць, папулярнасці яе ў асяроддзі маладога адукаванага пакалення.

## Па старонках Інтэрнета

### Юбілей львоўскага універсітэта

У бягучым годзе Львоўскаму нацыянальнаму універсітэту імя І. Франко спаўняецца 340 гадоў. Як паведаміў рэктар ЛНУ Іван Вакарчук, афіцыйна днём універсітэта лічыцца 11 кастрычніка. Менавіта ў гэты дзень 1999 года Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падпісаў указ аб наданні Львоўскаму універсітэту статуса нацыянальнага.

У 1661 годзе ва універсітэце было чатыры факультэты: багаслоўскі, медыцынскі, філасофскі і юрыдычны. З цягам часу медыцынскі факультэт ператварыўся ў самастойную ВНУ, а багаслоўскі ў перыяд СССР быў закрыты. Зараз у ЛНУ дзейнічаюць 19 факультэтаў і тры каледжы: юрыдычны, педагагічны і прыродазнаўчых навук, інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў. У бліжэйшых планах – адкрыццё тэатральнага факультэта.

Ва універсітэце навучаюцца больш за 22 тысячы студэнтаў. Доля тых, хто вучыцца на платных аддзяленнях, складае 25%.

Як паведаміў І. Вакарчук, ЛНУ мае афіцыйныя пагадненні аб супрацоўніцтве з 49 універсітэтамі ў розных краінах Еўропы і Амерыкі. Штогод сотні выкладчыкаў і студэнтаў прымаюць удзел у розных праграмах міжнароднага супрацоўніцтва.

### Ухвалена нацыянальная дактрына развіцця адукацыі

Завяршыўся другі ўсеўкраінскі з'езд работнікаў адукацыі, на якім былі ўсебакова абмеркаваны пытанні сучаснага стану і далейшага развіцця галіны.

Як заявіў на сустрэчы з журналістамі міністр адукацыі і навукі Васіль Крэмень, другі з'езд педагогаў поўнасцю апраўдаў усе надзеі. Па словах кіраўніка адукацыйнага ведамства, галоўным вынікам форуму з'яўляецца пазітыўная рэакцыя дэлегатаў на прапанаваны праект Нацыянальнай дактрыны развіцця адукацыі.

Праект быў у асноўным ухвалены з'ездам, педагогі прынялі рашэнне аб яго дапрацоўцы і накіраванні на зацвярджэнне Прэзідэнту Украіны.

### Школьнікі будуць вучыць гімн Расіі

Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі вырашыла правесці сярод настаўнікаў і вучняў растлумачальную работу па пытаннях выкарыстання нацыянальнай сімволікі. Адпаведныя інфармацыйныя лісты былі накіраваны ва ўсе навучальныя ўстановы.

Як паведамілі ў Мінадукацыі, школьнікі павінны ведаць, што, напрыклад, пры адначасовым размяшчэнні дзяржаўнага сцяга і сцяга вобласці (горада, раёна, грамадскага аб'яднання) першы павінен быць змешчаны злева ад другога. Калі размяшчаецца няцотная колькасць сцягоў, дзяржаўны павінен быць у цэнтры, цотная – злева ад цэнтра. Памер іншых сцягоў не павінен перавышаць палотнішча дзяржаўнага. Таксама звяртаецца ўвага і на выкарыстанне дзяржаўнага гімна: яго трэба спяваць і слухаць стоячы. Акрамя таго, навучальным установам даручана арганізаваць абавязковае вывучэнне гімна ўсімі школьнікамі і студэнтамі.

### Грошай на адукацыю зноў можа не хапіць

У дзяржаўнай Думе Расійскай Федэрацыі ідуць дэбаты па праекце бюджэту на наступны год. Пры гэтым, акрамя як па прынцыповых, канцэптуальных момантах, вельмі актыўна спрачаюцца і па канкрэтных артыкулах, размеркаванні дзяржаўных расходаў па галінах – абароне, прамысловасці, аграрным сектары і г.д.

Бюджэт-2002 аб'яўлены сацыяльным. Згодна з праектам, выдаткі на адукацыю ўпершыню перавысяць абаронныя расходы і, у параўнанні з выдаткамі ў 2001 г., узрастуць на 64%. Па словах Віцэ-прэм'ера расійскага ўрада Вялянціны Мацвіенка, толькі на рэалізацыю праграмы мадэрнізацыі адукацыі да 2005 года плануецца выдаткаваць 56 мільярдаў рублёў, у тым ліку 16 мільярдаў з федэральнага бюджэту.

Галоўнымі задачамі ў сферы з'яўляюцца ўмацаванне дзяржаўных пазіцый і павышэнне статуса настаўнікаў. Пра гэта гаворыцца і ў "Канцэпцыі адукацыйнай палітыкі на сучасным этапе", якая была абмеркавана на пасяджэнні Дзяржсавета і ўхвалена Прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным. У дакуменце асабліва падкрэсліваецца, што дзяржава разглядае паляпшэнне матэрыяльнага становішча педагагічных работнікаў як адзін з прыярытэтаў адукацыйнай палітыкі.

Сёння заработная плата настаўнікаў – вельмі нізкая. Так, стаўкі школьных педагогаў з 7 па 14 разрад у Расійскай Федэрацыі знаходзяцца ў межах 364 – 859 рублёў. Акрамя павышэння зарплаты, прадугледжваецца таксама, што настаўнікі будуць мець права на атрыманне субсідый для набыцця камп'ютэра і карыстання сеткай Інтэрнет. Павышэнню статуса будзе спрыяць і магчымасць стварэння ўласных асацыяцый, саюзаў і аб'яднанняў, удзел педагагічных работнікаў у кіраванні адукацыяй, распрацоўцы асноўных напрамкаў і прынцыпаў яе развіцця. Бясплатнымі для работнікаў адукацыі павінны стаць і карыстанне бібліятэкамі, наведванне (з групамі дзяцей) дзяржаўных музеяў і ўстаноў культуры.

Канцэпцыяй прадугледжаны і сацыяльныя льготы – поўная ці частковая аплата пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку і першачарговае забеспячэнне жыллём.

Варта адзначыць, што многія спецыялісты і самі работнікі адукацыі не без падстаў мяркуюць, што большасць вышэй адзначаных пунктаў канцэпцыі так і застанецца на паперы. Справа тут у тым, што значныя фінансавыя абавязацельствы, згодна праекту, павінны будуць узяць на сябе рэгіёны. Што можна казаць, напрыклад, пра забеспячэнне жыллём, калі і цяпер у цэлым шэрагу рэгіёнаў (Алтайскай Рэспубліцы, Варонежскай вобласці і інш.) назіраецца рост запазычанасці нават па сённяшняй, і так мізэрнай, заработнай плаце.

Яшчэ адной праблемай адукацыйнага бюджэту на 2002 год з'яўляецца яго структура. Так, вельмі істотна ўзрастуць расходы на капітальны рамонт будынкаў і аплату камунальных паслуг. Набыццё ж абсталявання, папаўненне бібліятэчнага фонду, аплата паслуг сувязі (без уліку федэральных праграм) застануцца фактычна на ўзроўні 2001 года. Так, на набыццё неабходнага ўстановам адукацыі абсталявання плануецца выдзеліць (у пераліку) 30 мільёнаў долараў ЗША, на літаратуру кожная ВНУ атрымае толькі 100 тысяч рублёў.

На нядаўнім пасяджэнні Расійскага грамадскага савета развіцця адукацыі спецыялісты галіны абнародавалі ўласныя разлікі і прапановы па паляпшэнні сітуацыі. Па меркаванні рэктара Дзяржаўнага універсітэта вышэйшай школы эканомікі Яраслава Кузьмінава, неабходна прадоўжыць рэалізацыю праграмы тэхнічнага пераўзбраення прафесійнай адукацыі і павялічыць выдаткі на закупку навуковага, вучэбна-вытворчага абсталявання з 1 да 4 мільярдаў рублёў. Фінансаванне стыпендый неабходна павысіць на 1,5 мільярда рублёў. Акрамя таго, для цэнтралізаванай перападрыхтоўкі выкладчыкаў на базах вядучых ВНУ трэба 300 мільёнаў рублёў. Яшчэ 870 мільёнаў рублёў просяць рэктары на рэалізацыю федэральнай мэтавай праграмы "Электронная Россия". Такім чынам, агульная розніца паміж разлікамі, праведзенымі спецыялістамі галіны, і праектам бюджэту складае 6 мільярдаў 770 мільёнаў рублёў.

У суцяшэнне расійскім работнікам сістэмы адукацыі можна сказаць хіба тое, што недахоп настаўніцкіх кадраў, асноўнай прычынай якога з'яўляюцца нізкія заробкі, – гэта агульнасусветная тэндэнцыя. Паводле слоў генеральнага дырэктара ЮНЕСКА па адукацыі Джона Дэніэла, у свеце ў бліжэйшыя 10 гадоў будзе запатрабавана 15 мільёнаў педагогаў.

### Аказваць платныя паслугі неабходна ў строгай адпаведнасці з заканадаўствам

Апошнім часам павялічылася колькасць зваротаў у Міністэрства адукацыі Расіі бацькоў па пытаннях правамернасці збірання грашовых сродкаў за аказанне дадатковых адукацыйных паслуг і на патрэбы агульнаадукацыйных устаноў. Выклікана гэта тым, што многія кіраўнікі школ у парушэнне п. 3 арт. 45 Закона Расійскай Федэрацыі "Аб адукацыі" прыцягваюць сродкі бацькоў на дадатковыя паслугі, якія аказваюцца ў рамках асноўных праграм.

У ходзе інспекцыйных праверак адзначаліся факты адсутнасці ў многіх агульнаадукацыйных устаноў ліцэнзій на аказанне платных паслуг. Яшчэ адна тыповая з'ява – шматлікія парушэнні пры афармленні дагавораў. Найбольш распаўсюджанымі тут з'яўляюцца ўшчамленне ў правах школьнікаў і іх бацькоў, адсутнасць або недакладнасць інфармацыі пра выканаўцаў і самі паслугі. Пры праверцы скаргаў пацвердзіліся многія факты незаконных збораў на дадатковыя заняткі, утрыманне аховы, набыццё абсталявання. У шэрагу выпадкаў грошы, якія фактычна збіраліся прымусова, проста прысвойваліся кіраўніцтвам школ і некаторымі настаўнікамі.

У сувязі з гэтым Мінадукацыі яшчэ раз нагадала, што аказанне школамі платных паслуг можа ажыццяўляцца толькі пры наяўнасці адпаведнай ліцэнзіі, у строгай адпаведнасці са статутамі ўстаноў і дзеючым заканадаўствам. Забараняецца таксама збіраць грошы з бацькоў без ажыццяўлення адпаведных касавых аперацый, устаноўленых фінансавымі і кантрольнымі органамі.

### Арыенцір - на Японію

"Мы супрацоўнічаем з многімі універсітэтамі і школамі бізнесу розных краін", – гаворыць дырэктар Вышэйшай школы бізнесу Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта прафесар Алег Віханскі.

Вядучая ўстанова ў сістэме расійскай бізнес-адукацыі мае намер і надалей працягваць і развіваць такое супрацоўніцтва. Увага надаецца як паглыбленню адносін з традыцыйнымі партнёрамі, так і пашырэнню геаграфіі ўзаемадзеяння. Асаблівую ўвагу кіраўніцтва ВНУ надае Японіі. На нядаўняй сустрэчы з прадстаўнікамі расійскіх мас-медыя Алег Віханскі сказаў: "Звычайна школы бізнесу ў сваёй рабоце арыентуюцца на ЗША і Заходнюю Еўропу. Мы ж, напэўна, адзіныя ў Расіі, хто працуе з японскімі партнёрамі, у прыватнасці добрыя стасункі ўстаноўлены са школай бізнесу універсітэта Кейё. З японскімі калегамі мы праводзім рэгулярныя семінары перыядычнасцю два разы на год. Тыдзень нашых студэнтаў навучаюць расійскія выкладчыкі, тыдзень – японцы, пасля чаго студэнты едуць на дзесяцідзённую практыку ў Японію".

Сведчаннем міжнароднага прызнання Вышэйшай школы бізнесу МДУ з'яўляецца і яе членства ў аб'яднанні Global Class, у якое ўваходзяць вядучыя ўстановы такога профілю ва ўсім свеце.

### Аб'яўлены конкурс для ахвотнікаў вучыцца ў ЗША

Амерыканскі Савет па міжнароднай адукацыі аб'явіў адкрыты конкурс на атрыманне стыпендый па праектах, якія фінансуюцца Бюро адукацыйных і культурных праграм Дзяржаўнага дэпартамента Злучаных Штатаў і прызначаны для тых, хто жадаў бы атрымаць ступень магістра альбо доктара ў вядучых універсітэтах краіны на працягу 1 – 4 гадоў. Для таго каб прыняць удзел у конкурсе, неабходна мець дыплом аб вышэйшай адукацыі. Пераможцы конкурсу змогуць прадоўжыць навучанне па спецыяльнасцях: кіраванне бізнесам, грамадскае адміністраванне, ахова здароўя, прыродакарыстанне, міжнародныя адносіны, бібліятэчная справа і інфарматыка, паліталогія, журналістыка.

### На Украіне пачалася камп'ютэрызацыя сярэдняй адукацыі

Звыш 1500 школ будзе камп'ютэрызавана на Украіне ў бягучым годзе. Да 2004 года, згодна з праграмай камп'ютэрызацыі сярэдняй адукацыі, ва ўсіх школах краіны будуць створаны камп'ютэрныя класы.

Як паведаміў міністр адукацыі і навукі Украіны Васіль Крэмень, у 2001 годзе на гэтую праграму выдзелена 20 мільёнаў грыўняў, якія накіраваны на абсталяванне 500 школ. Яшчэ 1000 агульнаадукацыйных устаноў мяркуецца камп'ютэрызаваць за кошт мясцовых бюджэтаў. Агульная доля дзяржаўных выдаткаў – 90 %, астатняе – сродкі спонсараў.

У 2002 годзе на ўказаныя мэты запланавана выдзеліць 30 мільёнаў грыўняў. Аднак, паводле слоў Васіля Крэменя, гэтая сума можа быць істотна павялічана, бо "існуе поўная падтрымка Прэзідэнта па гэтым пытанні".

Усяго на Украіне каля 22 тысяч школ, большасць якіх (16 тысяч) знаходзіцца ў сельскай мясцовасці.

### Другая маладосць бібліятэкі

Пасля рэканструкцыі зноў адчыніла дзверы фундаментальная бібліятэка Расійскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя А.І. Герцэна. Пакаленні студэнтаў і прафесараў на працягу ўсіх 204 гадоў існавання ВНУ карысталіся старой бібліятэкай, у фондах якой захоўваліся унікальныя старажытныя рукапісы, гістарычныя рарытэты нацыянальнага маштабу, сучасная літаратура. Зразумела, што за такі вялікі час састарэлі памяшканні і абсталяванне, не адпавядала патрабаванням сённяшняга дня і сама методыка бібліятэчнай працы.

Пасля капітальнага рамонту і рэканструкцыі бібліятэку можна смела аднесці да самых сучасных. Прыгожыя прасторныя чытальныя залы, перадавыя заходнія тэхналогіі захавання і дастаўкі кніг, зручная сістэма каталогаў – усё гэта паспелі па заслугах ацаніць наведвальнікі. Паводле слоў работнікаў, з увядзеннем новых тэхнічных сродкаў для чытачоў стануць даступнымі не толькі літаратура агульнага карыстання, але і рарытэтныя выданні.

### Акадэмія будзе універсітэтам

Іркуцкая дзяржаўная эканамічная акадэмія будзе пераўтворана ва універсітэт у гэтым навучальным годзе. Пра тое паведаміў яе рэктар Міхаіл Вінакураў. Галоўная мэта гэтага кроку – дамагчыся прызнання дыпломаў навучальнай установы за мяжой. Усё неабходнае – выкладчыцкія кадры універсітэцкага профілю, адпаведную матэрыяльна-тэхнічную базу, пяць напрамкаў падрыхтоўкі спецыялістаў – акадэмія мае ўжо сёння. Паводле слоў М. Вінакурава, у цяперашні час дыплом яго ўстановы за мяжой не каціруецца менавіта таму, што дыплом – акадэмічны, а не універсітэцкі. Статус універсітэта таксама станоўча паўплывае і на эфектыўнасць міжнародных сувязей, у прыватнасці будзе садзейнічаць пашырэнню студэнцкага абмену з ВНУ іншых краін.

### Грант паспеў да юбілею

Грант памерам 25 тысяч долараў ЗША выйграла усцьілімская школа № 10 па выніках Усерасійскага конкурсу інавацыйнай педагогікі "Аўтарскі эксперымент". Сродкі выдзелены школе на распрацоўку вучэбнай праграмы па падрыхтоўцы менеджэраў агульнаадукацыйных устаноў, выкладчыкаў дапрафесійнага і прафесійнага навучання. Гэтая школа з 1990 года з'яўляецца эксперыментальнай установай федэральнага значэння. За гэты час педагогі назапасілі шмат практычных і тэарэтычных матэрыялаў. Таксама варта адзначыць, што выдзяленне гранта паспела якраз да 20-гадовага юбілею ўстановы.

### Акадэмікі РАН занепакоены адыходам фундаментальных дысцыплін у школе на другі план

Вядучыя вучоныя ў галіне дакладных навук у большасці сваёй не прымаюць непасрэднага ўдзелу ў распрацоўцы канцэпцыі і праграм айчыннай адукацыі. Тым не менш у многіх вядомых навукоўцаў – матэматыкаў, фізікаў, хімікаў – ёсць свой, адметны погляд на многія актуальныя адукацыйныя праблемы сённяшняга дня. Больш за ўсё іх непакоіць тое, што ў праграме мадэрнізацыі адукацыі прыярытэтнымі школьнымі прадметамі названы інфарматыка, замежная мова, эканоміка і права, а фундаментальныя дысцыпліны адыходзяць на другі план.

Абмеркаванню гэтых пытанняў было прысвечана пасяджэнне Вучонага савета РАН, якое адбылося ў Матэматычным інстытуце імя Сцяклова. Сярод выступоўцаў было шмат знакавых імёнаў. Гэта акадэмікі Дзмітрый Аносаў, Андрэй Ганчар, Уладзімір Арнольд, Сяргей Нікольскі, Леў Кудраўцаў. Паводле іх меркавання, першародная ўвага ў школах сёння павінна надавацца матэматыцы, а таксама роднай мове і літаратуры. Менавіта яны – фундамент і стрыжань адукацыі. Далей ідуць фізіка, хімія, біялогія, гісторыя і геаграфія. Перагрузкі ў сённяшняй школе, лічаць дакладчыкі, адбываюцца з-за паяўлення "модных" прадметаў – такіх, як сусветная культура, экалогія, бяспека жыццядзейнасці. На думку аксакалаў расійскай навукі, такія дысцыпліны толькі засмечваюць вучэбныя планы, і ў пагоні за другарадным дзеці не паспяваюць засвоіць галоўнае.

Акадэмікі адзначылі, што цяперашняя канцэпцыя мадэрнізацыі адукацыі вельмі нагадвае тую, што была прынята ў 80-я гады, калі ўпор, паводле ўзору некаторых заходніх краін, зрабілі не на матэматыку, а на прадметы гуманітарнага цыкла. Між тым на Захадзе, у прыватнасці ў Злучаных Штатах, наадварот, выпраўляюць дапушчаны раней перакос. Так, пасля адпаведнага даклада сумеснай камісіі НАСА і Пентагона, Кангрэс ЗША распарадзіўся выдаткаваць з бюджэту 5,44 мільярда долараў на падрыхтоўку настаўнікаў матэматыкі.

Сёння ў Расіі, адзначаў акадэмік Уладзімір Арнольд, назіраецца імклівае падзенне матэматычных ведаў вучняў. Паводле вынікаў выпускных экзаменаў 2001 года, сярэдні бал па матэматыцы (па краіне ў цэлым) быў "здавальняюча". Спрыяе такой сітуацыі, на думку выступоўцаў, і нізкая якасць падручнікаў. Прычына гэтага – вельмі неразборлівая палітыка Мінадукацыі, якое выдае дазвол амаль што па ўсіх прапановах. Акадэмікі РАН лічаць такую практыку заганнай і прапануюць выпрацаваць сур'ёзны механізм апрабацыі падручнікаў. Як прыклад называўся знакаміты падручнік матэматыкі савецкіх часоў пад рэдакцыяй А.П. Кісялёва, які перавыдаваўся 16 разоў.

На вучоным савеце прысутнічаў адзін з намеснікаў міністра адукацыі – Аляксандр Кісялёў, які вымушаны быў трымаць адказ за ўсе "грахі" айчынных рэфарматараў ад адукацыі.

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў Уладзімір МАТУСЕВІЧ.**

